Тыднёвік Магілёўскі




№ 18 (133) 2 — 8 лістапада 2001 г. Кошт 80 руб.

# ...На кожным вакне — прывітальны белы ручнік



*... З той далёкай ночкі, калі зорка ўпершыню зьнікла й птушкі панесьлі першую душу ў сусьвет, людзі пачалі сустрэчы ладзіць са сваімі нябожчыкамі – родзічамі ды сябрамі. Дзядамі гэтыя дні памяці завуць, бо ўсе нябожчыкі таксама маюць найменьне Дзядоў. Яны мужныя і памятлівыя, Дзяды нашы сьвятыя. Прылятаюць да хаты заўжды, калі паклічуць іх сваякі. І сустракаюць нас на могілках, калі мы гасьцюем у памяці зямной.*

*Сёньня – Дзяды. На кожным вакне прывітальна сьвеціць белы ручнік. Быццам дарогу дамоў падказвае Дзядам: прыходзьце, ляціце да нас. Дзьверы і вокны расчыненыя – душам насустрач. Розных прысмакаў на кожным стале багата. Дзяды пріляцелі, як зоркі, селі за стол і чакаюць вячэры. Мы іх ня бачым. Ды адчуваем: тут яны, побач, за нашым сталом. Сьвечку запалім. А пасьля пачастунку першага распачнем гамонку-бяседу, у якой узгадаем усіх продкаў сваіх – і нядаўніх, і дужа далёкіх.*

*А толькі растаньне падступіць, і страпянецца стамлёная сьвечка – птахамі душы Дзядоў над хатай пакружаць і паляцяць туды, дзе ўспыхваюць зоркі...*

**Антаніна ХАТЭНКА (з кнігі "Нам засталася спадчына", Мн.1966)**

# Вымушаныя абмяжоўваць свабоды

***У Злучаных Штатах Амэрыкі на мінулым тыдні быў прыняты новы закон па барацьбе з тэрарызмам.***

Варта адзначыць, што новы закон тычыцца ня толькі спэцслужбаў. Ён значна шырэйшы: закранае шмат якія палажэньні ў галіне і фінансовага, і эміграцыйнага права. Напрыклад, больш жорсткімі робяцца патрабаваньні да замежных банкаў. Таксама цяпер можна будзе затрымліваць падазроных асобаў без вылучэньня абвінавачваньняў да сямі дзён, а калі паўторна – дык да шасьці месяцаў. Паліцыі і ФБР ***з дазволу судзьдзі*** дазваляецца праводзіць патаемныператрус у кватэрах тых, каго падазраюць у тэрарызьме.

Гэты закон актыўна абмяркоўваецца ў амэрыканскім грамадзтве. Шмат хто пры гэтым выказвае зьдзіўленьне. Аказваецца, да сёньняшняга дня паліцыя, ФБР ды іншыя спэцслужбы павінны былі браць дазвол у судзьдзі на праслух ***кожнага тэлефону***, па якім падазраваная асоба магла званіць. Сапраўдныя бандыты, якія ня маюць недахопу ў сродках, вельмі лёгка набывалі сабе новыя "мабільнікі"...

Зьявілася таксама непацьверджаная інфармацыя пра тое, што новы закон дазваляе ўжываць адмысловыя мэтады (мэдычныя прэпараты) падчас правядзеньня допытаў. Наогул, у ЗША ёсьць такое паняцьце – супрацоўніцтва са сьледзтвам. Калі арыштаваны прызнае сваю віну і дапамагае сьледзтву, яму могуць скараціць тэрмін зьняволеньня. Калі ж чалавек выдае інфармацыю пра асабліва небясьпечных злачынцаў і дапамагае прадухіліць новыя злачынствы – можа быць прыменена праграма абароны сьведкаў. Чалавека хаваюць, зьмяняючы яго нае прозьвішча, а нават і зьнешні выгляд, даюць новае месца працы, грошы на першы час... Дык вось на ісьлямскіх радыкальных фанатыкаў такія прапановы абсалютна ня дзейнічаюць. Адпаведна – сьледчыя ня могуць "развязаць ім языкі".

Тым часам у ЗША працягваюць знаходзіць бактэрыі антраксу (вугліка) у будынках самых важных дзяржаўных установаў: Дзяржаўнага дэпартамэнту, Вярхоўнага суду. Усё больш спэцыялістаў схіляюцца да думкі, што распаўсюд інфэкцыі – справа "сваіх" тэрарыстаў – тых, хто жыве ў ЗША. Колькасьць амэрыканцаў, якія ўжо прынялі антыбіётыкі ад вугліка, набліжаецца да ста тысячаў. Да гэтага часу памерлі чацьвёра інфікаваных.

**Сяргей НАВУМЧЫК**



Фота IREX

# Памяці ахвяраў

Каля трох дзясяткаў магілёўцаў сабралося 28-га кастрычніка на месцы масавых расстрэлаў грамадзян на жалобны мітынг-рэквіем.

Да Крыжа памяці ў кар'еры (насупраць мясакамбіната) прыйшлі прадстаўнікі розных грамадзкіх арганізацыяў і палітычных партыяў, вернікі каталіцкай і праваслаўнай канфэсіяў. Прысутныя ўшанавалі памяць бязьвінна загінуўшых і ўсклалі кветкі да Крыжа, а вернікі прачыталі малітвы. Падчас мітынгу было выказана пажаданьне, каб на месцы трагедыі быў пабудаваны помнік ахвярам палітычных рэпрэсіяў.

Адметным было тое, што ўпершыню за апошнія гады на акцыі не было міліцыянтаў.

***Уласная інфармацыя***

# Рэжым сакрэтнасьці мацьнее

***У зачыненым працэсе па справе выкраданьня Зьміцера Завадзкага – перапынак у сувязі зь неадэкватнымі паводзінамі асноўнага фігуранта Ігнатовіча.***

Суд пагадзіўся з тым, што гэтыя паводзіны зьвязаныя з хваробай падсуднага, якую трэба залячыць.

Тым часам рэжым сакрэтнасьці вакол працэсу мацнее. "Я ўжо нічога пра суд паведаміць не магу, нават пра лёс майго хадайніцтва аб тым, каб суд быў адкрытым. Бо за гэта мяне могуць выштурхнуць з працэсу ці нават прыцягнуць да адказнасьці", – заявіў адвакат Аксёнчык.

Небясьпека атрымаць штраф ці нават трапіць на паўгода ў турму за адно толькі слова аб працэсе – рэальная. Перакаиалася ў гэтым і Сьвятлана Завадзкая, на адрас якой ужо прагучалі папярэджаньні. Суд, як высьветлілася, незадаволены тым, што ў Сьвятланы бяруць інтэрвію журналісты. Таму жонка апэратара ОРТ спыніла кантакты з журналістамі, за што, праўда, папрасіла ў іх выбачэньня.

Усё ж з розных крыніцаў некаторыя зьвесткі аб працэсе сталіся вядомымі. У залю суду запрошаныя некалькі дзясяткаў чалавек паводле, як кажуць, 18-ці эпізодаў справы. Выкраданьне Завадзкага, якое інкрымінуецца злачыннай групе Ігнатовіча, толькі адно зь іх.

***Паводле інф. агенцыяў***



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

**У цэнтры Магілёва ў панядзелак абваліўся слуп, які трымае драты асьвятленьня і тралейбусных ліній. Гэта адбылося акурат побач з прыпынкам, і непадалёк стаялі дзясяткі людзей – патэнцыйных ахвяраў таго слупа. Прыкладна 3 гадзіны спэцыяльная брыгада выпраўляла сытуацыю, каб аднавіць рух. Страты прадпрыемства "Гарэлектратранспарт" склалі 4 мільёны рублёў. Сотні падобных гарадзкіх слупоў прастаялі па 30 і больш гадоў і, зразумела, патрабуюць тэрміновай замены. Між тым, грашовых сродкаў на выпраўленьне небясьпекі горад ня мае. А тут на мінулым тыдні ў адным з "Ікарусаў" адбыўся выбух: старая тэхніка падвяла. Два пасажыры мусілі зьвярнуцца па мэдычную дапамогу. Цяпер усе мы ледзь не рызыкуем жыцьцём, карыстаючыся грамадзкім транспартам. А што рабіць, калі ехаць трэба...**

**У нашай вобласьці 11 дзіцячых дамоў сямейнага тыпу з 35-ці такіх па Беларусі. У іх выхоўваецца больш за паўтары сотні дзяцей, якія жывуць разам з прыёмнымі бацькамі. Падобную форму сацыяльнай апекі, гуманую і сучасную, падтрымліваюць зараз дабрачынныя фонды зь Вялікай Брытаніі – "Сэнт-Джэймз Плэйс" і "Надзею і дамы – дзецям". Цягам апошніх гадоў яны перадалі некалькі адрамантаваных адмысловых дамоў у некалькі раёнаў Магілёўшчыны. У выніку дзясяткі дзяцей, абдзеленых лёсам, атрымалі крыху больш шчасьця.**

**Па сьведчаньні загадчыка аддзела радыяцыйнай гігіены абласнога цэнтру гігіены і эпідэміялёгіі Леаніда Ліпніцкага, толькі 33% дзяцей і 20% дарослых, з тых, што пацярпелі ад наступстваў Чарнобыльскай катастрофы, прызнаныя здаровымі. 15% дзяцей і амаль палова дарослых маюць хранічныя захворваньні. Гэта вынікі працяглых дыспансэрных аглядаў жыхароў забруджаных раёнаў і тых, хто быў перасяленых ў "чыстыя". На думку мэдыка, паколькі апраменьваньне, хоць бы і ў малых дозах, будзе існаваць яшчэ працяглы час, галоўнае зараз – вырашыць шматлікія сацыяльна-эканамічныя праблемы. Неабходна зрабіць жыцьцё людзей, аслабленых Чарнобылем, больш камфортным і дагледжаным з усіх пунктаў гледжаньня...**

**Паводле мэдычнай статыстыкі, цягам апошніх двох месяцаў былі зафіксаваныя 2 выпадкі шаленства хатніх жывёлаў і 98 – у прадстаўнікоў дзікай прыроды. Небясьпечная хвароба адзначылася ва ўсіх раёнах вобласьці. Сёлетнія лічбы ў 5 разоў перавышаюць звычайную статыстыку апошніх гадоў. Прычыны пакуль называюцца вельмі агульныя. Магчыма, галоўная зь іх – што бедная дзяржава не забясьпечвае належны санітарны дагляд тэрыторыяў. У падобных варунках сваіх "хатніх сяброў" трэба неадкладна вакцынаваць, а людзям пажадана пазьбягаць кантактаў зь "незнаёмымі" жывёламі.**

**Ураджай сабранага зерня ў вобласьці не перавысіў 750 тыс. тон. пры патрэбе ў прыкладна мільён. Ураджайнасьць склала 20,7 цэнтнэра з гектару. Да таго ж палі яшчэ ня цалкам убраныя. Начныя маразы паступова адсоўваюць актуальнасьць далейшай уборкі. Таксама зьнізілася ўраджайнасьць бульбы. У мінулым годзе было 118 цэнтнэраў з гектару, сёлета – 99. У выніку і сабралі ўсяго 74 тыс. тон. Падобныя лічбы і прапорцыі й па астатніх сельгаскультурах. Вядома, што калі чагосьці не хапае – растуць кошты. Так што будзем рыхтавацца й да гэтага.**

**У Бабруйску пабудуюць лядовы палац на 2,5 тысячы месцаў. Магілёўскага, відаць, не хапіла. Па-ранейшаму, аднак, няма ў бюджэце грошай на дабудову больш значных сацыяльных аб'ектаў: шпіталёў, школаў. Цікава, што калі той жа магілёўскі палац будаваўся збольшага на грошы з урадавых і "прэзыдэнцкіх" бюджэтных крыніцаў, то ў Бабруйску загадана будаваць, абапіраючыся на мясцовыя рэзэрвы. Лукашэнка паабяцаў толькі, што набудзе абсталяваньне для палацу. Можна сказаць, не баючыся памыліцца, што даўгабудам новы палац ня стане.**

**У Магілёве зарэгістраваная й пачала дзейнічаць грамадзкая суполка азэрбайджанцаў "Хазар". Днямі яна правяла прэзэнтацыю, на якой было адзначана, што галоўная мэта новай суполкі – захаваць культурныя традыцыі азэрбайджанцаў, што жывуць далёка ад Радзімы. "Хазар" будзе падтрымліваць землякоў і аказваць ім юрыдычную дапамогу. Гэта асабліва актуальна цяпер, пасьля таго, як нашае грамадзтва ўжо зжылася з паняткам "асобы каўказкай нацыянальнасьці".**

*Да сустрэчы праз тыдзень,*
*Сымон Глазштэйн.*

# Вырвацца зь бяспамяцтва...

Група магілёўцаў, аб'яднаных у таварысцкую суполку "Чароўны ўспамін" (аб якой мы шмат распавядалі), вырашыла наладзіць сёлетняе адзначэньне Дзядоў на магіле Тамары Раманьковай. Гэтае прозьвішча добра вядомае ўсім, хто яшчэ на пераломе васьмідзясятых гадоў (цяпер ужо мінулага стагодзьдзя) адчуў патрэбу ў дэмакратыі, праўдзе і маральным ачышчэньні. Яны верылі, што распачатая імі справа будзе незваротнай і абавязкова прывядзе да перамогі незалежнасьці Беларусі й ейнага дэмакратычнага разьвіцьця.

Тамара Раманькова не дачакалася таго. А грамадзтва пацiху зьміралася з тым, што ёсьць. Чароўна-успамінаўцы, многія з каторых былі знаёмыя і сябравалі з Т.Раманьковай, лепш за іншых адчуваюць нястачу ў гэты пэрыяд менавіта такіх людзей: крыштальна сумленных, таленавітых, па-добраму непахісных і самаахвярных...

Архіў Тамары Раманьковай, якая ня мела тут блізкіх родзічаў, перайшоў да яе сяброў, якія адкрываюць у ім матэрыялы і дакумэнты, што кранальна вяртаюць нас у гісторыю грамадзкага абуджэньня пачатку 90-х. Напярэдадні Дзядоў ***Міхась БУЛАВАЦКІ,*** тагачасны сябра і паплечнік першага старшыні абласнога аддзяленьня пазьнякоўскага "Мартыралёгу" Тамары Раманьковай, перадаў рэдакцыі сьціплы аркушак паперы зь вершаванымі радкамі, напісанымі рукой Тамары. Да аркуша ён дадаў і некалькі сваіх радкоў: "У нататніку сярод закладак я знайшоў гэты верш. Пад ім такая прыпіска: 29 кастрычніка 1989г. Мітынг-рэквіем на магілёўскім кар'еры". Я быў на тым мітынгу, адразу ўспомніў, што Тамара Емельянаўна чытала менавіта гэтыя радкі пры ўсталяваньні і адкрыцьці крыжа на ахвярным месцы Магілёва. Прапаную надрукаваць яго цяпер як даніну яе памяці".

***На фота Васіля МІРОНАВА – адзначэньне Дзядоў у Магілёве ў кастрычніку 1989г.***







## На месцы ахвярным

І там – Курапаты,
і тут – Курапаты...
Правалы ў зямлі і крутыя
груды...
Мінулае нам наступае на пяты.
Зь бяспамяцтва вырвацца
клічуць Дзяды.
І сталыя леты, і юныя вёсны,
пластамі палеглыя
ў ценю бароў...
На глебе ахвярнай
высокія сосны
ня сок увабралі, –
гарачую кроў.
Цякуць пад карэньнем
барвовыя рэкі.
Ня бачыць хіба што душою
сляпы,
якія пакутнікам выпалі
зьдзекі...
Шкілеты маўчаць і маўчаць
чарапы.
Адчаю дакор у
застылых паглядах,
што спаць нам спакойна
датуль не дадуць,
пакуль сталіністы
сядзяць на пасадах
і сыта – на пэнсіях – каты
жывуць.
На нашай зямлі
тут і там – Курапаты.
І нехта яшчэ замятае сьляды...
Мінулае нам наступае на пяты.
Зь бяспамяцтва вырвацца
клічуць Дзяды.

# Першая цэгла для новага падмурку

***У мінулую нядзелю ў Крычаве была закладзеная першая цэгла ў падмурак новай міжрэгіянальнай структуры – Рады па падтрымцы недзяржаўных арганізацыяў і ініцыятываў магілёўскага Ўсходу.***

Сутнасць ідэі, якая нарадзілася ў арганізатараў пасьля некалькіх год працы ў "трэцім сэктары", – зьмена прыярытэтаў, на якія дагэтуль абапіралася практыка пабудовы адкрытага грамадзтва ў нашай краіне. Менавіта ініцыятыва "зьнізу" павінна стаць дзейсным штуршком для грамадзка-карысных справаў. Яна павінна замыкацца на рэальнае насельніцтва без пасярэдніцтва абласных і сталічных структураў, якія ў нас даволі ёмістыя й ня дужа рухомыя.

У тым, што гэта праўдзівае назіраньне, нас пераканалі нядаўнія прэзыдэнцкія выбары, калі не рэспубліканскія, а менавіта рэгіянальныя грамадзкія арганізацыі ўзялі на сябе ўвесь цяжар назіраньня за іхняй хадой і правядзеньнем агітацыйных мерапрыемстваў дэмакратычных кандыдатаў.

Думаецца, няма патрэбы лішні раз тлумачыць, што гэта значыла для актывістаў ва ўмовах беларускай правінцыі. Аднак у чарговы раз ахвярныя людзі, якія хацелі дапамагчы сваёй Бацькаўшчыне ў цяжкую гадзіну, сутыкнуліся ня толькі зь перасьледам з боку ўлады, але і зь нядобрасумленнасьцю, абыякавасьцю й нават ашуканствам з боку пэўных сталічных і абласных палітычных і грамадзкіх структураў.

Зараз у Крычаве зроблены першы крок па шляху дэцэнтралізацыі працэсаў, якія адбываюцца ў арганізацыях "трэцяга сэктару" на Магілёўшчыне. Таму прадстаўнікі Касьцюковіцкага, Чэрыкаўскага, Клімавіцкага, Крычаўскага і Краснапольскага раёнаў падтрымалі ініцыятыву па стварэньні новай, так бы мовіць, "нізавой" структуры, асноўным прызначэньнем якой будзе аказаньне рознабаковай падтрымкі ўсім, хто зацікаўлены ў пабудове грамадзянскай супольнасьці ў межах усходняй часткі нашай вобласьці.

*Андрэй КУЗЬМІН,*
*кіраўнік інфармацыйнай службы Крычаўскага грамадзкага аб'яднаньня "Кантакт-цэнтар"*

# Абарані Сябе Сам

Матэрыялы гэтай рубрыкі рыхтуюць Магілёўскае аддзяленьне Беларускага Хельсінскага Камітэту і Магілёўскі Праваабарончы цэнтар. Склад грамадзкай рэдакцыі: С.Абадоўскі, У.Краўчанка, А.Александровіч.



(тэл.24-73-95, 22-95-83, 22-04-82, 22-73-05)

## Няма надзеі на слугаў

***Як бы ні было, а юрыдычная сьвядомасьць грамадзтва расьце, пра што сьведчыць, у прыватнасьці, факт, якім падзяліўся з "ТМ" старшыня Рады абласнога аддзяленьня Беларускага Хельсінскага Камітэту Ўладзімер Краўчанка. Праўда, нельга сказаць на прыкладзе гэтага ж факту, што ўпоравень з тым ростам ідуць афіцыйныя слугі закону. Хутчэй, наадварот.***

... Настаўнік Рудкаўшчынскай школы Горацкага раёну С.А.Шаршнёў накіраваў у аблпракуратуру заяву, у якой паведаміў пра негатыўныя зьявы, якія, на ягоны погляд, маюць месца ў школе і вакол школы па віне дырэктаркі Л.А.Мінінай-Пархоменка. Было тое ў жніўні. А ў верасьні заяўнік быў выкліканы ў раённы суд, дзе ў парадку адміністратыўнай справы (па зыску дырэктаркі) быў прызнаны вінаватым у "распаўсюджаньні паклёпу" на сумленнага чалавека. Аднак з тым не пагадзіўся і працягвае адстойваць як сваю "заяўніцкую" праўду, так і юрыдычную неправамоцнасьць свайго пакараньня. На той падставе, што ня ён парушыў закон, а – слугі закону.

Грунтам для ягонага пакараньня, як было падкрэсьлена вышэй, сталася "распаўсюджаньне недакладных зьвестак", якія не знайшлі пацьверджаньня ў ходзе праверкі. Аднак зварот грамадзянаў у дзяржаўныя, кантралюючыя, праваахоўныя інстанцыі – згодна закону – ня можа лічыцца "распаўсюджаньнем". Ён ёсьць тым, чым ёсьць – зваротам, і ня больш за тое. Аднак жа пра факт звароту ў пракуратуру, пра аўтарства гэтага звароту і, самае галоўнае, – пра зьмешчаныя ў ім зьвесткі сталася шырока вядома многім людзям у вёсцы Рудкаўшчына, у мясцовай школе і нават у райцэнтры. Вядома настолькі, што гэта дало падставу дырэктарцы школы выклікаць С.Шаршнёва ў суд "за паклёп", дзе судзьдзя В.К.Ясковіч прыняла бок дырэктаркі, а не настаўніка.

Хто ж распаўсюдзіў гэтыя самыя "недакладныя зьвесткі" супраць Л.Мінінай-Пархоменка і, наогул, адкуль яна даведалася, хто і што напісаў пра яе ў пракурорскую інстанцыю? Ды адтуль і даведалася. Аблпракуратура накіравала скаргу ў Горкі, у міжрайпракуратуру, а тая, правяраючы заяву, пазнаёміла зь ейным зьместам усіх, з кім гутарыла, а найперш – дырэктарку школы. Тое ж зрабіў і ст. інспэктар міліцыі В.Чупракоў, які дапамагаў у праверцы.

Між тым законам гэта забаронена. У артыкуле 6-ым Закону "Аб зваротах грамадзянаў" так і гаворыцца: **"Пасадавыя асобы ня маюць права агалошваць зьвесткі, якія сталіся ім вядомымі ў сувязі з разглядам зваротаў грамадзянаў".**

Ёсьць у гэтым прававым здарэньні парушэньне з боку афіцыйных асобаў яшчэ аднаго артыкула Закону, пра што ўласнаручна сьведчыць Л.Мініна-Пархоменка ў судовай заяве, дзе піша: "Ён *(С.Шаршнёў – "ТМ")* у сваёй заяве ад 23.08.2001г. на імя пракурора вобласьці...", тым самым прызнаючы, што яна знаёмая з тэкстам заявы С.Шаршнёва. Але ж 7-мы артыкул Закону забараняе **"перадаваць скаргі грамадзянаў пасадавым асобам..., дзеяньні якіх абскарджваюцца".**

...Адкуль жа ва ўступе да гэтых нататак зьявілася аптымістычная заўвага аб павышэньні прававой пісьменнасьці ў нашым грамадзтве, калі ў адным толькі Горацкім выпадку столькі парушэньняў і недарэчнасьцяў? Аднак, тут важна мець на ўвазе тое, хто дапусьціў гэтыя парушэньні. Як вынікае з расповяду, шараговы настаўнік, жыхар самай звычайнай вёскі – іншымі словамі, прадстаўнік грамадзкасьці – ведае і разумее Законы і правы, якія яму гарантаваныя. Таму за іх і змагаецца.

А грэбуюць юрыдычнай адукацыяй, перавышаюць службовыя паўнамоцтвы і дэманструюць сваю прававую непісьменнасьць менавіта афіцыйныя прадстаўнікі законнасьці. Таму, пакуль такое становішча будзе захоўвацца, гаварыць у нас аб прававой дзяржаве, зразумела, не да месца і не да часу. Тым больш востра паўстае праблема юрыдычнай самаадукацыі грамадзтва, паколькі няма трывалай надзеі на слугаў Фэміды.

***Кастусь ЛЕАНІДАЎ***

## Парады Юрыста-2

***Гэтым разам Юрыст прапануе нашым чытачам некалькі новых парадаў, што закранаюць некаторыя магчымыя дачыненьні грамадзянаў з праваахоўнымі органамі.***

Уявім, што Вас затрымалі на некалькі сутак па падазрэньні ў зьдзяйсьненьні злачынства. З гэтага моманту Вы маеце права патрабаваць і мець абаронцу (адваката). Таксама Вас павінны на працягу першых сутак затрыманьня дапытаць у якасьці падазраванага. У выпадку, калі Вы хадайнічалі аб прадастаўленьні Вам адваката, допыт павінен быць праведзены ў ягонай прысутнасьці.

Не затлумвайце сабе галаву пытаньнем аплаты адвакацкіх паслугаў. Па-першае, здараецца так, што сам факт запатрабаваньня Вамі адваката можа стацца важнейшым за ягоны ўдзел у справе. Па-другое, ніхто ня мае права гвалтам прымусіць чалавека заплаціць грошы за юрыдычныя паслугі, калі правы гэтага чалавека парушаныя. Увогуле, можаце нават заявіць сьледчаму, што гэта ён павінен думаць пра тое, як разьлічвацца з адвакатам.

Памятайце некалькі правілаў наконт канфіскацыі Вашых рэчаў. Калі Вас даставілі ў пастарунак, то абавязкова павінны забраць Вашыя асабістыя рэчы. Пры гэтым павінен быць складзены пратакол, які можа называцца па-рознаму: вобыск, адабраньне, добраахвотная выдаваньне. Перш за ўсё патрабуйце падчас канфіскацыі прысутнасьці панятых і прадастаўленьня Вам копіі пратаколу канфіскацыі. Калі ў Вас канфіскоўваюць аўтатранспарт, то пры гэтым абавязкова поўна павінен быць адлюстраваны ягоны стан, а таксама пералічана ўсё без выняткy, што знаходзіцца ў самой машыне.

Пасьля высьвятленьня абставінаў, зьвязаных з канфіскацыяй Вашай маёмасьці, патрабуйце яе вяртаньня. У выпадку адмовы ці калі Вашыя рэчы будуць вернутыя ў папсаваныя выглядзе, выкладзіце адпаведнае патрабаваньне пісьмова: напішыце скаргу ў пракуратуру, заяву ў суд.

Цяпер возьмем звычайны жыцьцёвы прыклад. Вы бавіце час, гуляючы зь сябрамі ў карты ў грамадзкім месцы: у сквэры, на стадыёне й г.д. Да Вас падыходзіць міліцыянт і кажа, што азартныя гульні ў гэтым месцы забароненыя. Вы працягваеце гуляць. Тады ён забірае Вашыя карты й сыходзіць. Вось тут у ягоных дзеяньнях ужо зьяўляецца склад злачынства – рабаваньне. Справа ў тым, што гульня (у тым ліку ў шашкі, шахматы, г.д.) у грамадзкіх месцах забароненая толькі ў тым выпадку, калі гульцы граюць на грошы. Калі ж на "інтарэс" – можна гуляць. У падобных абставінах можаце сьмела адстойваць свае законныя правы. Аднак гарантаваць таго, што ў выніку адназначна даб'ецеся справядлівасьці, я не магу.

КУРАПАТЫ: АПОШНІЯ ЗЬВЕСТКІ

## Будзе яшчэ адзін камітэт?

***Сябры КХП – БНФ працягваюць добраўпарадкоўваць Курапаты: працаваць на пагорку й рабіць новыя крыжы.***

Дарэчы, выконваючы абавязкі старшыні партыі ў Беларусі Сяргей Папкоў ладна працуе сякерай. Ён, па словах калегаў, робіць вялікі крыж за 40 хвілін – гэтак яго некалі навучыў бацька. У нядзельным шэсьці ў Курапаты на мінулым тыдні, што наладзіла Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ, узялі ўдзел каля 1000 чалавек.

Сябры патрыятычных моладзевых арганізацыяў, якія ўжо больш за месяц вартуюць могілкі, абмяркоўваюць ідэю стварэньня свайго ўласнага аргкамітэту ў абарону Курапатаў. Як заявіў адзін з моладзевых актывістаў, "справа ў тым, што ў нас няма даверу да тых людзей, што ўвайшлі ў Грамадзкую ініцыятыву, бо яны зьявіліся тут усяго пару разоў, і да таго ж заклікаюць нас сысьці і не бараніць Курапатаў. Таму моладзь і КХП – БНФ вырашылі стварыць свой аргкамітэт, які ўвесь час будзе знаходзіцца ў Курапатах, і які ўсё на месцы будзе вырашаць. Мы ў ніякім выпадку не дапусьцім, каб дарога прайшла праз Курапаты. Адзін кампраміс для нас – гэта каб дарога пайшла ў абыход".

Тым часам будаўніцтва кальцавой дарогі працягваецца, з кожным днём набліжаючыся да Курапатаў. Разьлік на тое, што стане холадна й людзі доўга ў лесе ня высядзяць...

***Паводле "Свабоды"***




## Выканкамаўскі ўрок на вачах дзяцей

***Крычаўскі настаўнік фізыкі і матэматыкі Леанід Сьвецік, які быў запрошаны адміністрацыяй СШ №5 для выкладаньня фізыкі, быў выдалены з клясы пасярод урока.***

Запрасілі сп.Л.Сьвеціка ў зьвязку з тым, што адна з школьных настаўніцаў на месяц зьехала з школы на абласныя курсы павышэньня кваліфікацыі. Такім чынам зьявілася патрэба ў выкладчыку, і адміністрацыя школы спыніла свой выбар на Леанідзе, які мае 12-гадовы настаўніцкі стаж, а да таго ж – уласныя навуковыя працы. Трэба дадаць, што Л.Сьвецік падчас запрашэньня часова не працаваў, а таму ахвотна пагадзіўся дапамагчы школе і сабе.

Аднак новы настаўнік адпрацаваў толькі паўтары ўрокі. На сярэдзіне другога ў школу прыехаў загадчык раённага аддзелу адукацыі райвыканкама М.Мазок і наклаў забарону на прафэсійную дзейнасьць Леаніда Сьвеціка.

На думку сп.Сьвеціка, такім чынам улады помсьцяць яму за арганізацыю і правядзеньне кантролю за выбарамі прэзыдэнта на Крычаўшчыне, а таксама за ранейшы адміністратыўны суд, які ён выйграў у чыноўнікаў райвыканкаму.

***К.АНДРЭЕЎ***

## У выніку палітычнай ненадзейнасьці

***Гледачы магілёўскага "Залатога шлягеру" больш ня ўбачаць у ролі вядучай асноўных канцэртаў гэтага фэсту знакамітую Зінаіду Бандарэнку.***

Днямі яна звольнілася зь Дзяржаўнага канцэртнага аркестру пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга, дзе працавала апошнія некалькі год. Звольнілася з фармулёўкай "паводле асабістага жаданьня". Аднак многія лічаць, і былая зорка БТ таго не адмаўляе, што гэта адбылося ў выніку ціску на яе, народную артыстку, бо яна цягам апошняга часу адкрыта выступала супраць кіруючага рэжыму ў сувязі зь ягоным адмоўным стаўленьнем да разьвіцьця нацыянальнай культуры. У часе прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі спн.Зінаіда была даверанай асобай кандыдата Ў.Ганчарыка. Увечары 9-га верасьня яна брала ўдзел у мітынгу апазыцыі на Кастрычніцкай плошчы ў Менску...

Паводле некаторых крыніцаў, напісаць заяву пра звальненьне Зінаіду Бандарэнку папрасіў сам Фінберг, які цяпер ня толькі кіраўнік аркестру, але й дэпутат "Савету Рэспублікі". Аднак пры тым мала хто верыць, што рашэньне прымаў ён асабіста...

***Вольга РЫМАШЭЎСКАЯ***

## ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

### ...зь Бялынічаў

***Будаўніцтва жыльля паводле "прэзыдэнцкай праграмы" у калгасах і саўгасах раёна адмоўна адбіваецца на аб'ёмах запазычанасьці гаспадарак перад мясцовым аддзяленьнем ААТ Белаграпрамбанку.***

На сёньня запазычанасьць прадпрыемстваў аграпрамысловага сэктару па выплаце крэдыту на жыльлё складае 881631,4 тысячы рублёў. Паводле інфармацыі адміністрацыі банку, 3,9 млн. рублёў з гэтай сумы – агульная сума пратэрмінаваных працэнтаў крэдытаваньня жыльлёвай праграмы. Асноўная прычына неэфэктыўнага выкарыстаньня крэдытных рэсурсаў – распыленьне грашовых сродкаў, невытворчыя страты, а таксама несвоечасовы ўвод жыльля.

***Паводле інфармацыі райаддзела статыстыкі, намінальны сярэдні заробак па раёну за дзевяць месяцаў бягучага году склаў 81147 рублёў.***

Традыцыйна больш высокія заробкі былі ў супрацоўнікаў банкаў: у сярэднім па 151119 рублёў штомесяц. Па-ранейшаму мала атрымоўваюць работнікі бытавога абслугоўваньня – 33489 руб. штомесяц; мастацтва – 47175; сацыяльнага забесьпячэньня – 57496.

У верасьні нечакана шмат зарабілі лекары – па 234393 рублі. А вось заробак настаўнікаў толькі нязначна перавысіў памер у 100 тысячаў рублёў.

***Цягам году па розных прычынах у раёне страцілі працу 1535 чалавек, што складае 16,3 адсотка ад сьпісачнага складу ўсіх катэгорыяў работнікаў.***

За гэты самы час было прынята на працу толькі 1407 чалавек. За сёлетніх дзевяць месяцаў 714 работнікаў учынілі 1453 выпадкі прагулаў. Увогуле, на сёньня ў розных сфэрах гаспадарчага комплексу раёну працай занятыя 9410 рабочых, служачых і калгасьнікаў, тады як у мінулым годзе іх было 9648 чалавек.

***Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ***

### ...з Шклову

***Расейскія фірмы купляюць вольныя заводзкія плошчы на мясцовай папяровай фабрыцы "Спартак".***

На 1-ае кастрычніка доўг фабрыкі расейцам складаў больш за 100 млн. руб. Цяпер вядуцца перамовы з мэтаю ўстанаўленьня на тэрыторыі фабрыкі моцнага генэратара расейскай вытворчасьці, які, магчыма, будзе пераапрацоўваць пару ў электраэнэргію.

За 9 месяцаў бягучага году ў раёне нарадзілася 192 дзіцяці, а памерла 497 чалавек.

Увогуле сьмяротнасьць перавысіла нараджальнасьць з пачатку года ў 2,5 разы. Асабліва высокая сьмяротнасьць – на сяле (75%).

***Мясцовая філія БСДП "Народная Грамада", якая раней увайшла ў фракцыю А.Караля "за адзінства", заявіла пра сваю нязгоду з публічнымі выступамі старшыні партыі М.Статкевіча.***

Сябры суполкі лічаць, што сваімі апошнімі заявамі, уключна з публікацыяй у "Советской Белоруссии", Статкевіч наносіць шкоду дэмакратычнаму руху ў Беларусі.

***Шклоўская суполка БНФ пляную абраць 5 дэлегатаў ад раёну на чарговы зьезд.***

У ліку абраных хутчэй за ўсё будзе старшыня шклоўскае Рады БНФ "Адраджэньне", дырэктар ЖКХ сп.Костусеў. У раёне ўжо працяглы час ходзяць чуткі, што мясцовая "вэртыкаль" хоча пазбавіць яго пасады за апазыцыйную дзейнасьць. Пакуль, аднак, чалавек працуе.

***Паводле апублікаваных райвыканкамам дадзеных сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця раёну за 9 месяцаў 2001г., агульны аб'ём вытворчасьці падвысіўся на 33% у параўнаньні з аналягічным мінулагоднім пэрыядам.***

У справаздачы, аднак, не паведамляецца аб стане раённага бюджэту. Між тым, паказчык, які характарызуе фінансавае становішча раёну – гэта запазычанасьць па заробках работнікам бюджэтнае сфэры. На гэты час ня выплачаны заробак за верасень настаўнікам, мэдыкам, культработнікам. Прыкладна такі самы стан і ў гаспадарча-разьліковай сфэры.

***Аляксандар ШЧАРБАК***

### ..з Горак

***Ужо больш за пяць гадоў мясцовыя грамадзкія аб'яднаньні робяць захады, каб адчыніць у горадзе ўласна моладзевае "традыцыйна-беларускае" кафэ.***

Для рэалізацыі праекту ёсьць амаль усё – кухары, ды- джэі, музыканты, мастакі, ахоўнікі. На жаль, мясцовае кіраўніцтва не падтрымоўвае згаданую ідэю. Калі актывістам удаецца знайсьці чарговае зручнае памяшканьне, то адразу ж намэнклятуршчыкі займаюць ягоную плошчу пад свае "давно вынашенные" ідэі. Але кожная ідэя рана ці позна, як сказаў Плятон, становіцца рэчаіснасьцю...

***Школа маладых журналістаў Горак ужо зрабіла макет будучага інфармацыйнага штотыднёвага гарадзкога сайту ў Інтэрнэце.***

Плянуецца разьмяшчаць на старонцы як інфармацыю зь мясцовых газэт – дзяржаўных і незалежных, так і забаўляльныя гісторыі з жыцьця школьнікаў і студэнтаў сельгасакадэміі. А падобных гісторыяў, будзьце пэўныя, зашмат!

***Ад пачатку года інвэстыцыі ў асноўны капітал за кошт усіх крыніц фінансаваньня скараціліся па раёну на 15,2% (у параўнаньні з годам мінулым).***

Таксама раёну не ўдалося выканаць дзяржаўны заказ па малаку (91,4%) і па збожжу (82%). Паводле афіцыйных дадзеных, агульныя страты ў прамысловасьці, сельскай гаспадарцы, будаўніцтве і гандлі склалі 1,4 млрд. рублёў. Пры гэтым гарадзкі бюджэт па даходах (паводле загадчыка фінансовага аддзелу райвыканкама В.Масьлякова) выкананы на 101,3 %. Парадокс?

***Па дадзеных Горацкага РАУС, большасьць спэцыялістаў у галіне самагонаварэньня ў раёне – жанчыны. Сярод іх каля 65% – пэнсіянэркі.***

Усяго з пачатку года па фактам выпуску самаробнай "вогненнай вады" было складзена 95 пратаколаў. Да адказнасьці прыцягнутыя 37 жанчын.

***Віталь ДРАНІК***

### ....з Крычава

***Адміністрацыя Лукашэнкі зрабіла каштоўны падарунак калгасу "Сацшлях": тры новыя трактары.***

Акцыя гэтая мае ідэйны зьмест: падараваныя машыны будуць названыя ў гонар салдат, што нарадзіліся на Крычаўшчыне і загінулі падчас савецкай вайны ў Афганістане. Дарэчы, задума з імёнамі належыць старшыні "Сацшляху" Рыбчынскаму, які таксама быў "воінам-інтэрнацыяналістам". Цяпер на трактарах "Леанід Краўцоў", "Сяргей Дубровін" і "Сяргей Лугавы" будуць пахаць калгасныя палеткі.

***На мінулым тыдні раённы вузел сувязі даслаў усім уладальнікам факс-мадэмаў горада пісьмовыя патрабаваньні аб іхняй неадкладнай рэгістрацыі.***

У крычаўцаў, якія адмовяцца рэгістраваць сваю тэхніку, будуць адключаныя тэлефоны. Нечаканую рэгістрацыю зьвязваюць зь нядаўнімі работамі ў Крычаве кампаніі GSM, якая выйграла тэндэр на права быць другім ў Беларусі апэратарам сотавай сувязі. Для сваіх патрэбаў спэцыялісты кампаніі правялі сканіраваньне пэўных радыёчастотаў, на якіх і працуюць сярэднестатыстычныя факс-мадэмы. У выніку было зафіксавана 20 крыніц паступленьня інтэрнэт-інфармацыі, а менавіта столькі чалавек у горадзе маюць доступ да Інтэрнэту. Застаецца дадаць, што зарэгістраваныя ўладальнікі мадэмаў павінны будуць штомесячна ўносіць дадатковую абанэнтскую плату за свой тэлефон.

***Андрэй КУЗЬМІН***

## Наш сябра – ляўрэат

Напрыканцы мінулага тыдня ў польскім Бельску-Падляскім скончыўся VIII фэст беларускай аўтарскай песьні "Бардаўская восень".

У конкурснай праграме ўдзельнічалі два дзясяткі выканаўцаў. Гран-пры фэсту і трыццаць гадзінаў бясплатнага запісу ў прафэсійнай студыі "Польскага радыё" атрымаў польскі дуэт "Эйфарыя". Такім чынам, другі год запар перамоджцамі аказаліся прадстаўнікі Польшчы. Ляўрэатамі конкурсу сталі таксама аўтар "Тыднёвіка", магілёўскі доктар Васіль Аўраменка і Вольга Чумічова зь Менску.

Па ўручэньні ўзнагародаў і выступе ляўрэатаў адбыўся канцэрт гасьцей фэсту. Сярод іншых у ім засьпявалі Віктар Шалкевіч, Алесь Камоцкі ды Зьміцер (Тодар) Вайцюшкевіч, які паказаў прэм'еру свайго новага праекту "Цацачная крама". Скончылася імпрэза ў перапоўненай зале Бельскага Дому культуры акустычным выступам гурту "NRM", які мясцовая моладзь вітала так заўзята, што, нягледзячы на моцныя акустычныя сыстэмы, часам было не чуваць саміх музыкаў.

***Паводле радыё "Свабода"***



## Шкодная дасьведчанасьць

Новы падыход у "беларуска-расейскай інтэграцыі" быў апрабаваны днямі ў адной зь вёсак Браншчыны.

Да мясцовай пэнсіянэркі завіталі дзьве жанчыны, якія прадставіліся супрацоўніцамі Дзяржбанку. Яны пацікавіліся, ці ведае бабуля пра новыя саюзныя грошы. Пэнсіянэрка радасна пагадзілася: так, хто ж у нас ня ведае, што Беларусь і Расея ўжо аб'ядналіся! Тады жанчыны прапанавалі палітычна дасьведчанай бабульцы абмяняць наяўныя ў яе расейскія грошы на валюту саюзнай дзяржавы непасрэдна ў хаце, каб ня чэпаць да банку. Атрымаўшы ад бабулькі 3300 расейскіх рублёў (а гэта крыху больш за 100 даляраў), наведніцы зьніклі, пакінуўшы на стале маляваныя падробкі "саюзных грошай".

***Паводле газэты беларускага МУС "На страже"***


Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*
*Штотыднёвік*



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў,
вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net



Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 18. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 01.11.2001 г. а 17.05.